# Ці далёка да Афрыкі?

Сядзеў Слаўка на яблыні і думаў пра Афрыку. Там у рэчках плаваюць кракадзілы, ходзяць пад спякотным сонцам сланы, ястрабамі гойсаюць па гушчарах тыгры, леапарды і пантэры...

Вось там сапраўднае жыццё!

Тут, у двары, сакочуць сонныя куры, мэкае на прывязі каза і нудзіцца ў будцы Пірат.

Тут адна самота і нуда!

Тут нават яблыкі не хутка саспеюць. Чакай і выглядай таго дня, калі ўжо іх нарэшце можна будзе есці. А там, за тысячы кіламетраў, мабыць, цэлы год яблыкі спелыя-спелыя вісяць сабе на дрэвах. Афрыка ўсё ж!..

Слаўка журботна пазяхнуў і заёрзаў. Галінка пад ім імгненна трэснула, і хлопчык паляцеў долу.

Прызямліўся ў кукурузе, ды яшчэ з кіслым яблыкам у зубах.

З перапуду моцна яго прыкусіў, і аж сківіцы ў хлопца звяло. Быццам ад халоднай вады. Так звяло, што аж застагнаў Слаўка. Ажно Афрыку сапраўдную пабачыў.



І кракадзілаў, і тыграў, і леапардаў, і пантэр — усіх пабачыў...

А тут яшчэ і пабіўся балюча. Заплакаў бы, але навокал нікога няма, каб пашкадавалі. Як быў бы хто побач, то, магчыма, і слёзы пайшлі б. А так — што дарэмна ваду ліць?

Самому, без чыёй-небудзь увагі і без спадзявання на спачуванне, чамусьці ніколі не хочацца плакаць.

Ляжаў у кукурузе, ажно пакуль пабітае месца не перастала балець — і аскоміна з зубоў і сківіцы сышла. І Афрыка яму ўжо не ўяўлялася. Ціха пагойдвала голлем яблыня, і шапацела кукуруза. І пад гэтае шапаценне Слаўка задрамаў.

Разбудзіў яго голас Пірата.

Ён сярдзіта на некага гаўкаў.

Слаўка выпаўз з кукурузы і пайшоў на двор.

У веснічках стаяла незнаёмая жанчына.

— Гэта ты — Слаўка Бондар?

— Так.

— А я буду ў цябе настаўніцай. Мяне завуць Ганна Якаўлеўна.

Слаўка ведаў, што восенню пойдзе ў школу. Але ён не ведаў, чаго зараз прыйшла настаўніца.

— А вы што, задаяце ўрокі? — спытаў Слаўка.

— Не, — усміхнулася настаўніца. — Да ўрокаў яшчэ рана. Я хаджу і знаёмлюся з тымі, каго буду вучыць.

Слаўка ажно ў струнку выцягнуўся пасля гэтых яе слоў. Нават на насочкі прыўзняўся, каб быць вышэйшым. Бо захваляваўся, каб настаўніца не сказала, што яму яшчэ рана ў школу. Такі ён ужо сярдзіты на сябе, што памалу расце. Самы нізкі ў дашкольнай групе. Але настаўніца не сказала, што Слаўка яшчэ малы.

— Хочацца вучыцца? — запыталася.

— Вельмі хочацца.

— А чаму вельмі хочацца?

— Бо ўсе мае сябры пойдуць у першы клас...

— І толькі з-за гэтага?

— Не толькі...

— Дык з-за чаго яшчэ?

Слаўка доўга думаў і нарэшце адказаў:

— Бо ў школе пра Афрыку расказваюць.

— А цябе цікавіць Афрыка?

— Цікавіць, — адказаў Слаўка, і перад яго вачыма зноў паплылі ў рэчках кракадзілы, загойдаліся пад бліскучым, зіхоткім сонцам сланы, замільгацелі тыгры, леапарды і пантэры...

— Гэта вельмі добра, калі чалавека нешта цікавіць, — сказала Ганна Якаўлеўна. Сказала зусім па-даросламу. — А ты, Слаўка, калі вырасцеш, можа быць, сапраўды паедзеш у Афрыку...

— А да яе далёка? Да Афрыкі?

— Далёка, — адказала настаўніца і задумалася.

А пра што яна думала, Слаўка, канечне, не мог здагадацца.

— Да Афрыкі, хлопча, мусіць, гадоў з пятнаццаць твайго жыцця, — вымавіла Ганна Якаўлеўна. Толькі Слаўка яе зусім не зразумеў.

Ужо калі настаўніца пайшла, хлопчык пашкадаваў, што не спытаў, як гэта разумець.

Ён зноў залез на дрэва і думаў пра далёкую Афрыку.

А яго вусны раз за разам паўтаралі: «...гадоў з пятнаццаць твайго жыцця...»

Можа быць, вы падкажаце Слаўку, што значаць тыя загадкавыя словы настаўніцы?



# Нашчадак тарпанаў

## 1

Яго зноўку разбудзілі ластаўкі.

Яны пра штосьці перамаўляліся, уладкоўвалі гнёзды, лёталі прама над галавою.

Ім было чаго радавацца, бо яны ведалі, што зноў настае цёплы дзень, і спяшаліся сустрэць яго ў полі над палеткамі.

А ён нікуды не спяшаўся.

Неахвотна расплюшчыў вочы, убачыў пасярэбранае світанкам акно. Пачуў з жолаба пах прывялай канюшыны. Але есці яму зноўку не хацелася. Не хацелася і ўставаць. Ён з цяжкім прыдыханнем пазяхнуў і падумаў, што сёння будзе нясцерпна доўгі дзень.

Доўгая, мо нават бясконца доўгая дарога яго жыцця, якую ён прайшоў, цягнучы за сабою нялёгкі воз.

Іншыя коні, мабыць, цяпер зайздросцілі яму. Хочаш — ляжы ў зацішным халадочку, хочаш — шукай свежую пашу, а хочаш — тупай сабе да рэчкі. І ніхто

на цябе не крыкне, не заверне назад. Дык ён усё ж і не цешыўся сваёю воляй. Яна была яму цяжкою...

Павольна ўзняўся на ногі, страсянуўся ўсім целам, каб прагнаць з яго дрымоту, і пайшоў праз пустую канюшню да выхаду, слухаючы, як незвычайна гулка бухкаюць яго капыты. Усе коні былі ўжо на рабоце. Ён праспаў тую гадзіну, калі іх выводзілі са стайні, запрагалі, нязлобна пакрыкваючы, і яны грымелі вазамі ад канюшні ў розныя бакі сяла.

Ён высунуў галаву ў прыадчыненую браму і зажмурыў ад сонца вочы.

— Ну і спіш жа ты, Каштане, высыпаешся за ўсё жыццё, — пачуўся яму насустрач Сцяпанаў голас.

Конь уважліва паглядзеў на яго і выйшаў на надворак.

— І правільна робіш. Спі, калі спіцца... Не хадзі без справы... Бо ўсё ходзіш і прынюхваешся, быццам штосьці згубіў, а знайсці не можаш...

Схіліўшы галаву, конь слухаў Сцяпана і, здавалася, разумеў, пра што той гаворыць, выплёўваючы словы з рота, як лушпінне. Аж здзівіўся таму Сцяпан, нават вузкімі плечанятамі сцебануў.

— Слухаеш, як чалавек, быццам усё разумееш... То ідзі ўжо, Каштане, гуляй. Табе гэта толькі і засталося...

Конь яшчэ раз угледзеўся ў Сцяпанаў твар, мусіць, чакаў, ці не скажа той нешта яшчэ, а потым павярнуўся і патупаў з надворка.

Сагнуты і да пары састарэлы Сцяпан доўга глядзеў яму ўслед, чухаў макушку з рэдкім чубам, а пасля разважліва вымавіў:

— Бачыш, якім сумным і дрэнным канём ты стаў на старасць... Старасць, яна, братка, нікога на свеце не мінае. Перад ёю ўсе роўныя — і чалавек, і скаціна... Старасць, яна сваё возьме, і нікуды ты ад яе не схаваешся.

Але Каштан ужо забыўся на буркатлівага Сцяпана, ён ішоў пыльнай вулачкай да ракі і ціха радаваўся хуткаму купанню.

Уваходзячы ў прахалодную ваду, ён адчуваў, што яго грузнае і непаваротлівае цела маладзее. Ён задаволена фыркаў, ржаў, а пасля доўга чакаў, прыслухоўваючыся, ці не пачуецца адкуль іржанне ў адказ.

## 2

Каштан выклыпаў з ракі на бераг і лёг на пяску.

Заплюшчыў вочы і слухаў, як награваецца жывот, як прыемна палошчуць яго кроплі вады, сцякаючы з грывы на шыю. Ужо засынаючы, адчуў пранізлівы пах палыну і чабору, што быў прынесены з поля сухім ветрам.

І прысніўся яму бяскрайні стэп, які выходзіць з далягляду і сыходзіць удалячынь. А тым стэпам, асцярожна навастрыўшы вушы, капыцяць нізенькія, з моцнымі кароткімі нагамі конікі. А пад імі зялёным полымем палыхаюць травы. І зіхацяць, пырскаюць ва ўсе бакі, быццам іскры, свежыя росы. І ўжо пад самымі хмарамі адбіваецца гул конскіх капытоў.

Ды раптам прыскочыў цёплы летні дождж. Стала ціха-ціха. Аж моташна. Некуды за небакрай зніклі коні. Засталіся толькі ён, маленькі жарэбчык, і яго маці. Яны стаялі ў цёплай высокай траве. Маці цёпла фыркала яму ў вуха. Каштану стала ўзрушліва добра, і ён прачнуўся.

Імкнуўся расплюшчыць вочы, але не мог, бо нечыя беражлівыя далонькі затулілі іх, і хтосьці з гарачым подыхам шаптаў яму ў вуха:

— Конік, адгадай, хто я. Адгадай, конік...

Каштан наравіста крутануў галавою і скінуў тыя рукі з вачэй. Скасіў вока і пабачыў каля сябе галаву хлапчаняці.

Ён зноў заплюшчыў вочы, каб вярнуцца ў недагледжаны сон. Але сон не вяртаўся. У вачах завіравала цемра, і ён зноў іх расплюшчыў. Гультаявата кінуў позірк на хлопчыка, што сядзеў поруч і перабіраў яго грыву. Дзівіўся: адкуль такая з'ява, а потым вырашыў чакаць, пакуль яго зноў не адолее сон. Ён ужо хацеў зручней уладкаваць галаву на пярэднія ногі, як хлопчык сказаў:

— Давай знаёміцца. Мяне завуць Слаўка. Я прыехаў да бабулі на канікулы...

Конь маўчаў, і хлопчык загаварыў зноў:

— Які ты прыгожы! У цябе такая чорная грыва, а сам ты такі незвычайны, ты колерам — як асфальт... Ты, я бачу, далёка незвычайны конь...

Каштан ужо прымірыўся з хлапчуком. Зноў задрамаў і скрозь дрымоту слухаў, як гуляюць у яго на шыі цёплыя далонькі і журчыць над вухам тоненькі голас.

— Ты, мабыць, нашчадак знакамітых тарпанаў. Я пра іх усё ў кніжках чытаў. Вунь у цябе і капыты такія, як у тарпанаў былі. І грыва тырчма стаіць. Ці ведаеш ты, якімі гордымі былі тарпаны? Яны жылі толькі на волі. Я табе пра іх раскажу...

Ад таго галаску ён і заснуў.

Каштану зноў сніўся бясконцы стэп, грукат конскіх капытоў і трывожны салодкі свіст ветру ў маладой грыве.

## 3

На хлапчука і каня здзіўлена пазіралі размораныя спёкаю дачнікі.

— І куды тыя бацькі глядзяць, — сказаў, адарваўшы пляшку піва ад рота, мажны мужчына з трайным

абвіслым падбароддзем, — гэта ж скаціна. Возьме і затопча дзіцянё.

Ён адкаркаваў новую пляшку, выцадзіў яе да дна, выцер брудны пот з усіх сваіх падбароддзяў і загукаў:

— Гэй ты, голуб, ці не скажаш нам, адкуль гэтая каніна ўзялася на пляжы?

— Вы мяне пытаецеся?

— Ну не — папу рымскага.

— А хіба коням тут бываць забаронена?

— Ты што, з мяне смяяцца ўздумаў? Чаму вас цяпер у той школе вучаць?

— Я не смяюся, я пытаюся. Тут нідзе не напісана, што коням наведвацца на пляж строга забаронена.

— Не дакумекалі, таму і не напісалі...

— А хіба гэта пляж? Гэта ж — не пляж!..

— Ты, бачу, падкляпаны на язык як цыганскае дзіця на адно месца. І адкуль такі ўзяўся-нарадзіўся?

— Я прыехаў з Кіева.

— Ну і што? Мы таксама прыехалі...

— А хіба я што? Я нічога, — няўпэўнена сказаў Слаўка.

— Ну вось так, — сказаў ужо добра асалавелы дзядзька, якому цяпер і не пад сілу было згадаць, з чаго ўсё ж такі пачалася размова ці нават спрэчка, таму ён памякчэў, але вырашыў прыструніць гэтага хулігана. А што Слаўка абавязкова хуліган — дзядзька чамусьці ні кроплі не сумняваўся. — Ты мне не балба-

чы, туману ў вочы не пускай. І… каб усё было з табою ў акураце. Зразумеў?

— Няўжо ж, — з гатоўнасцю адказаў Слаўка, каб хутчэй спыніць незразумелую балбатню.

Нават і не перапытаў, што ж такое павінна быць «у акураце», бо колькі ні стараўся, так і не здолеў зразумець дзіўных і мудрагелістых дзядзькавых слоў.

Дзядзька падставіў сонцу круглы, як глобус, жывот і захроп на ўвесь бераг. Ажно Каштан прачнуўся і вуха напружыніў.

— Як трактар пад гарою, — ракаменціраваў тую храпунскую з'яву Слаўка і з усмешкаю хітра падміргнуў Каштану. — Нічога, яму сваё, а нам сваё, ці не праўда ж?

Конь уважліва паглядзеў на яго і пра нешта задумаўся.

— Ох, каб жа ты ўмеў гаварыць, — раптоўна з жалем сказаў Слаўка.

## 4

Бацькі ўжо не сварыліся на яго за тую дзіўную дружбу з Каштанам. Пабачыўшы тады, як абдымаў соннага каня ля рэчкі, перапужаліся. Маці і дагэтуль адысці не можа, як тое згадае.

— Цябе нельга без нагляду пакідаць. Заўжды знойдзеш на сваю галаву прыгоды. Упершыню пабачыў каняку і давай з ім абдымацца. А як цапнуў бы?

— Не цапне, — упэўнена вымавіў Слаўка.

— Адкуль ты ведаеш?

— А так і ведаю. Ён, па-першае, мірны і лагодны конь, а па-другое, коні спераду ніколі не цапаюць.

— Падумаць толькі: няшчаснае дзіця асфальту пабачыла каня і не пабаялася да яго падысці, — у каторы ўжо раз дзівілася маці.

— А чаго мне пужацца? То ж конь, а не тыгр ці леапард, напрыклад. Коні ж такія разумныя!..

— Адкуль табе ведаць, якія яны разумныя!..

— А я чытаў. Чытаў і пра арабскіх скакуноў, і пра дапчакоў, і пра каня Пржавальскага, і пра тарпанаў. А ты, можа, ведаеш, напрыклад, што такое кватэрхорс?

— І што ж гэта такое? — зніякавела маці.

— Гэта парода коней, якія выведзены ў амерыканскіх штатах Караліна і Віргінія. Іх яшчэ называюць каўбойскімі konьмі. Перад нашай паездкай у вёску па тэлевізары паказвалі радэа...

— Ты ў нас конская энцыклапедыя, — засмяялася мама і махнула рукою. — Выхоўвай ужо свайго мустанга.

— Не мустанга, а тарпана.

— Хіба не ўсё адно?

— Гэта розныя рэчы, — аўтарытэтна патлумачыў Слаўка, — і іх нельга блытаць. Ты ж не называеш сенбернара фокстэр’ерам?

— Дык гэта ж — сабакі...

— А гэта — коні. І яны, дарэчы, такія ж разумныя, як і сабакі.

— Няхай будзе грэчка, — сказаў бацька і ўтаропіўся ў экран тэлевізара, дзе ўжо пачынаўся футбол.



— Вось так заўсёды: аднаму — футбол, другому — конь, а я не ведаю, дзе сябе і дзець!

Слаўка падумаў трошачкі, што б параіць маме, а пасля сказаў:

— Купі сабе сенбернара, возьмеш яго на прагулку.

— Яшчэ сенбернара мне да вас не хапала!

А Слаўка ўжо выскачыў з хаты. Пабег да калгаснага двара, бо падумаў, што Каштан ужо засумаваў там без яго.

## 5

Сцямнела. Надыходзіла ноч.

Сцяпан пыхкаў цыгаркай і расказваў Славіку пра коней.

— Яны вельмі падобныя да людзей, у кожнага свая манера паводзін. То, бывае, дрэнны, зацюканы, а то — як твой Каштан. Ох і з характарам быў у маладыя гады — сама ганарыстасць. Толькі крыкнеш на яго альбо абагрэеш чым — крыўдзіцца, зверам становіцца. Праўда, і да работы ахвочы быў. Стоміцца за плугам — а выгляду не падае́. І дзе ён сярод коней такой ганарлівасці набраўся?

Ад камароў ужо не было ніякага паратунку, усё Славікава цела свярбела, але ён, хоць і бесперапынна круціўся, не прапускаў ніводнага слова Сцяпана.

— Я яго яшчэ жарэбчыкам памятаю. Такі спрытны быў. Яго б у цырк, каб артыстам быў. Там бы ён сябе паказаў. Але так жыццё склалася... Шмат хто змушаны рабіць не тое, што яму хацелася б.

Слаўка слухаў і дзівіўся з таго, як трапна, да месца вылятаюць са Сцяпанавага рота словы: так, быццам ён падштурхоўвае кожнае языком, каб хутчэй выскоквалі.



— Заседзеліся з табою, трэба збірацца дадому, бо камары загрызуць.

— Я зараз, толькі з Каштанам развітаюся, вось рафінаду дам.

— Ты думаеш, ён галодны? Цэлы цэбар капусты ўтрубіў. Есці зноў пачаў — як не ў сябе...

— Гэта ж добра. Вы казалі, раней не хацеў есці.

— І праўда, яно ж добра... Харч — ён усіх на нагах трымае.

Каштан ужо распазнаваў Слаўкавы крокі. Пачуўшы іх зараз, ён павярнуўся і заржаў. Вочы яго засвяціліся цёмным бляскам.

Слаўка працягнуў яму на далоні цукар-рафінад, і конь беражліва выхапіў яго вуснамі. Пасля даверліва, як сабака, пацёрся галавою аб хлапчукова плячо.

— Ну і лісьлівы ты ў мяне! — засмяяўся Слаўка.

А Каштан лёгенька кусануў яго за плячо.

— Бач якім кусачым зрабіўся! Будзеш кусацца — зубы болей не вырастуць!

— Хадзем, казача, дахаты, бо позна ўжо. Перападзе табе ад бацькі на гарох, — сказаў, падышоўшы, Сцяпан.

— Да заўтра, Каштане! Чакай, я з самага ранку за табой зайду.

— То ж дачакаецца, не памрэ.

— Колькі яму можа быць зараз гадоў? — спытаўся Слаўка па дарозе з канюшні.

— Можа, трыццаць, а можа, і ўсе сорак, хто яго ведае...

— Дык ён вельмі стары?

— Сапраўды стары. Як свет стары.

— Шкада...

— Шмат чаго шкада, і нічога не зробіш, — адказаў Сцяпан, думаючы пра нешта сваё.

## 6

— Зноў канягу сюды прывалок?.. А навошта? — пытае дзядзька, падобны на піўную бочку.

Ён сядзіць на тым самым месцы, што і ўчора. Быццам вечарам і на ноч нікуды не хадзіў. Каля яго зноў ляжала цэлая батарэя пляшак з півам.

— Не турбуйцеся, дзядзька, усё будзе ў акурацце, — успомніў Слаўка мудронае слоўца аматара піва. — Гэта ж не проста конь, а вучоны конь.

— Раскажы каму-небудзь...

— Хочаце — верце, хочаце — не.

— Ніколі не паверу, — кажа аматар піва і бярэцца за чарговую пляшку, прагна залівае вадкасць у сябе, і жывот яго з кожнай пляшкай раздуваецца...

Слаўка з усіх сіл заціскае далонямі рот, каб дзядзька не пачуў яго смеху, і ляціць да вады, выгукваючы па дарозе:

— Каштан, за мной! Наперад!

Конь патрусіў важкае цела за ім.

Плаваюць навыперадкі. Затым Слаўка хапае Каштана за хвост і прымушае, каб той буксіраваў яго.

Сонца ўжо выплыла зусім высока, а хлопец усё не выходзіць з вады і каня не выпускае.



Дзядзька на беразе ўжо павыпіваў усе пляшкі, нудзіцца без піва, як дзіця без соскі. Спадылба абводзіць пахмурным паглядам рэчку і гукае:

— Вылазь, хлапчына, бо на галаве вярба вырасце. І каню дай спакой — ён у цябе ўжо на ладан дыхае.

Калі выйшлі з вады, у Каштана доўга хадуном хадзілі бакі. Конь стомлена паваліўся і адразу заснуў.

## 7

Ён плыў спакойна ракою сну, і нейкая ўладная сіла выхапіла яго з тае ракі, як рыбіну.

Увесь змакрэлы, стомлены, з хворым капытным гулам у гарачай галаве, ляжаў ён на засцеленым саломай памосце і задыхаўся.

Ён з усіх сіл напружваў зрок і намагаўся штосьці ўбачыць скрозь густы туман цемры.

Конь насцярожыў вуха: ці не загучаць знаёмыя крокі? Але ніхто і ніадкуль да яго не ішоў.

Ён хацеў прыўзняцца. Задраў галаву і ўжо нават уставаў на пярэднія ногі, ды яны задрыжэлі і падкасіліся.

Каштан нязграбна ўпаў на бок і балюча ўдарыўся галавою аб перагародку.

Ён паляжаў ціхенька, прыслухоўваючыся да свайго болю і намагаючыся ўзбіцца на сілу. Боль пераходзіў з галавы ў грудзі, у ногі, у жывот. Цела яго ўсярэдзіне стала ажно закіпаць халоднымі дрыжыкамі, а скура балюча сцялася, быццам у вялікі мароз.

Густая цемра ў акне над ім павольна размывалася, акно шарэла. Больш выразным станавіўся яго чатырохкутнік на сцяне.

Каштан паглядзеў на той шэры чатырохкутнік доўгім тужлівым позіркам і зноў прыслухаўся. У канюшні было ціха і цёмна. І толькі ў галаве яго то нарастаў, то сціхаў капытны гул.

Каштан напружыўся і канвульсіўна заржаў, уклаўшы ў тое іржанне рэшткі згасаючых сіл.

Іржанне разбудзіла ўсіх коней. Яны падняліся на ногі. Жахліва аглядаючыся, іржалі на ўсю моц і храплі. Білі нагамі ў перагародкі, свярлілі цемру налітымі крывёю вачыма, грымелі ланцугамі, намагаючыся паразрываць іх.

Але Каштан ужо не чуў таго вэрхалу ў канюшні, слых у яго раптоўна знік. Ён яшчэ раз рэзка прыўзняў галаву і падзівіўся вакол позіркам, які нічога не бачыў, шукаў вачыма, ці не ідзе ніхто да яго.

Жыццё выходзіла з яго, быццам цяпло з зусім забытага вогнішча.

Ён ужо ледзь заплюшчыў вочы, каб больш не расплюшчваць іх. І з іх выкаціліся гарачыя, цяжкія, як свінец, слёзы. Яму раптоўна зрабілася лягчэй, але гэта адчуванне было імгненным, як сполах бліскавіцы на начным небе, — мільганула і знікла.

І тады на яго навалілася цемра.

Ён пазяхнуў і заціх.



— Тое ж з тыдзень таму было, — сказаў Сцяпан.

Слаўка моўчкі пайшоў у канюшню. Паглядзеў туды, дзе заўсёды быў Каштан. Перад яго вачыма паплылі

жалабы, вокны, дзверы. Ён, губляючы сілы, схіліўся на перагародку і зайшоўся ў рыданнях.

Сцяпан стаяў збоку, пазіраў на хлопцаву галаву. А потым ціха сказаў:

— Ты, казача, гэта... не плач, значыць. Нельга быць такім слязлівым. Добры ты вельмі — таму і слёзы адразу... Век выйшаў у каня — вось і ўсё. Ды і па табе сумаваў, пакуль ты хварэў...

Сцяпан гаварыў нязвычна павольна. Словы ўжо не выляталі з рота, а ціха прасочваліся скрозь пракураныя вусны і падалі да яго ног, як важкія кроплі вады.

— Ты калі ехаць збіраешся?

— Што?

— Ехаць калі збіраешся, пытаюся...

— Заўтра.

— Зайдзі развітацца.

— Добра.

— Не забудзься зайсці. Я табе рэмень салдацкі падару, каб помніў Сцяпана. А цяпер ідзі, не рві сабе душу.

...Тым вечарам Слаўка нязвыкла рана лёг спаць і адразу ж заснуў.

— Ты бачыш, як усё выйшла нам напрыканцы адпачынку, — зажурана сказала маці бацьку. — І ангіна тут да яго прычапілася, і конь яго любімы памёр...

— Я ўбачыў сёння, што яго вочы сталі зусім дарослымі. Вельмі ён сумуе...

— У горадзе, павер, усё хутка забудзецца. Дзіцячы боль — як раса, узыдзе сонейка — раса высахне.

— Няхай бы так і з нашым Слаўкам. Вельмі ён уражлівы. Чым мы тут вінаватыя, што ён такі ўдаўся?..

— Такім ён удаўся, такім і застанецца. З такіх і людзі сапраўдныя вырастаюць, — раздумліва сказала бабуля і пагладзіла Слаўкаву галаву.

Бацькі абодва ўважліва паглядзелі на яе. І абодва толькі цяпер выразна заўважылі, што яна ўжо старая, высахлая, як трэска, што яе вочы ўжо даўно пабляклі...

Паглядзеўшы адзін на аднаго, яны апусцілі вочы долу.

...А раніцай Слаўка пайшоў да Сцяпана развітацца.



# Слаўка і Жако

І днём, і ноччу грымяць цягнікі паўз маленькі стэпавы раз'езд. Пасажыры, мабыць, не паспяваюць яго і запомніць, бо такіх раз'ездаў уздоўж чыгункі шмат. Усюды паласатыя, як зебры, шлагбаўмы, старэнькая будка і каменны будынак, які высоўвае з густога вішняку чарапічную дахоўку, як ішак галаву.

Вось тут і жыве самы вялікі з вялікіх фантазёраў на свеце Слаўка. Штодня праважае позіркам цягнікі і з нецярпеннем чакае, калі нарэшце вырасце і паедзе ажно ў саменькую Афрыку. Адтуль сюды, на раз'езд, штотыдзень прыходзяць пісьмы ад бацькі.

На канвертах то вярблюды, то маўклівыя піраміды — пабачыць бы ўсё гэта на свае вочы, пакатацца на вярблюдзе, залезці на піраміду!

— Афрыка ад цябе не ўцячэ, — супакойвае дзядуля, — вырасцеш, то аб'ездзіш увесь свет. Во дзіва, толькі за гэта лета — як з вады выгнаўся.

Ага, як з вады, думае Слаўка, з якой там вады! Хіба ж так трэба расці, каб хутка вырасці! Трэба — як

тая бузіна за хатаю. Верхаліны яе ажно да даху дапялі. Вось гэта сапраўды расце. А тут проста ніякага цярпення няма чакаць. Як добра бацьку, што ён дарослы, ездзіць куды захочацца. І штораз з геалагічных экспедыцый прывозіць нечаканыя дзівосныя падарункі.

Калі адʼязджаў гэтым разам, Слаўку стала неяк прыкра. Якая несправядлівасць: чаму бацьку трэба ехаць якраз у яго дзень нараджэння? Маці супакоіла хлопца:

— Станеш дарослым, тады зразумееш, як важна быць верным свайму абавязку.

— У дзяцей яшчэ больш абавязкаў, чым у дарослых, — запярэчыў Слаўка. — І ў школу трэба хадзіць, і старэйшых слухацца, і рукі мыць, і зубы чысціць, і каб што-небудзь зрабіць — дазволу трэба пытацца… Не жыццё, а адны абавязкі — нават дыхнуць без іх спакойна не можаш.

— Вырасцеш — абавязкаў стане яшчэ больш, — спакойна дадаў тата.

— Больш, як у мяне ёсць, мабыць, не бывае, — засумняваўся Слаўка.

— Бывае, сыне, яшчэ як бывае, — выказалася маці. — Усё наша жыццё з іх складаецца.

— А ў мяне так не будзе… Буду рабіць толькі тое, што захачу, — сказаў хлопчык і тут жа ўявіў, як ездзіць паўсюль і ўсё на свеце бачыць. І не трэба тады будзе яму ў школу хадзіць, ні ўрокі вучыць, ні рана ўставаць — шмат нудных спраў не трэба будзе рабіць.

Тады яно і будзе сапраўднае жыццё. Не жыццё, а суцэльнае свята.

Бацька, калі ўжо сабраўся і прысеў на дарогу, спытаўся:

— Што ж табе адтуль, здалёку, прывезці?

— Я не ведаю, тата, што там ёсць, а чаго няма...

— А трэба ўжо і ведаць. Дарослы. Вучышся ажно ў трэцім класе.

— Дык мы ж яшчэ геаграфію не вучым.

— Давай дамовімся так, — сказаў бацька, — пакуль я буду ў Афрыцы, ты пачытаеш пра яе кніжкі. А як вярнуся, раскажаш мне ўсё, што даведаўся пра Афрыку. Я ж распавяду табе толькі тое, чаго ты не паспееш даведацца. Згода?

— Згода.

— А прывязу табе найцікавейшае з усяго, што там сустрэнецца.

— Толькі з адной умовай: Слаўка будзе добра вучыцца, — дадала маці. — Праўда ж, сынку?

— Добра, — адказаў з неахвотаю і пазяхнуў Слаўка.

І раптам бацька спахапіўся:

— Пачакай, а я ж забыўся табе ўручыць найгалоўнейшы падарунак.

Пад акном ужо сігналіла машына, што прыехала за бацькам, калі ён выйшаў са свайго пакоя з трыма вялікімі цёмна-сінімі кніжкамі ў руках.

Слаўка зірнуў і ажно застыў ад радасці. Да тых кніжак яму раней нават падыходзіць забаранялася. Аднаго разу бацька толькі паказаў яму прыгожыя каляровыя малюнкі ўсялякіх жывёл у таўшчэзных кнігах.

— Гэта табе. Калі я быў такі, як ты цяпер, мне іх дзядуля падарыў. І для мяне гэта былі найцікавейшыя кніжкі на свеце.

— Мне... — прашаптаў Слаўка. Ён ніяк не мог паверыць у такую падзею.

— Напісаў гэтыя кніжкі знакаміты нямецкі вучоны Альфрэд Эдмунд Брэм больш як сто гадоў таму. Іх чытаюць ва ўсім свеце. Я ўпэўнены, «Жыццё звяроў» табе таксама спадабаецца.

Бацька паехаў, а Слаўка пачаў чытаць кніжкі Брэма.

Ён даведаўся, што зебравыя мангусты ўмеюць падрабляць птушыныя галасы, а таму ім удаецца перахітрыць іх, прыманьваючы да сябе. Птушкі нічога не падазраюць і ляцяць туды, дзе, трохі пакрычаўшы па-іхняму, схаваліся мангусты. Такія вось хітрыя стварэнні! Мабыць, яшчэ хітрэйшыя за лісіц. Людзі ловяць і лёгка прыручаюць мангустаў. Яны нікуды не ўцякаюць, ім нават падабаецца жыць каля людзей.

Высветлілася, што ў Афрыцы жыве дзікі кот сервал, які палюе на зайцаў і ягнят. Днём ён спіць, схаваўшыся ў непралазным гушчары, а цёмнай ноччу выходзіць на свой разбойніцкі промысел.

Пракрадаецца на фермы, усюды знаходзіць сабе смачную спажыву. Калі людзям пашчасціць злавіць сервала яшчэ маладым, яны лёгка яго прыручаюць, і ён становіцца як звычайны хатні кот. Нават мурлыча задаволена, калі яго лашчаць, гуляе з дзецьмі ў футбол.

Мабыць, з яго быў бы добры варатар, бо ён вельмі спрытны. Такога б варатара ў іх класную каманду!

А яшчэ Слаўка дазнаўся, што ў Афрыцы ёсць зусім маленькія антылопы. Не, не дзеці дарослых антылоп, а ўжо дарослыя і ўсё яшчэ малыя. На выгляд яны нават меншыя за зайца, іх так і называюць: карлікавыя антылопы. Яны вельмі даверлівыя, а таму становяцца лёгкаю спажывай розных звяроў. І іх засталося ў свеце зусім мала. Як жа зберагчы карлікавых антылоп? Можа, трэба вылавіць усіх да адной і пасяліць у заапарку? А там ужо ім ніхто не страшны. Слаўка нават ліст напісаў бацьку з такой прапановай. Хай скажа гэта галоўнаму па ахове звяроў начальніку. Дзіўна, што ніхто дасюль да гэтага не дадумаўся.

Пачаліся канікулы. Слаўка паехаў у спартыўны лагер. Кнігі Брэма вельмі цяжкія. Ён не мог іх везці з сабою. Спярша нават не ўяўляў, што там рабіць без іх. Добра, што знайшліся ў лагернай бібліятэцы тоненькія кніжачкі пра прыроду Афрыкі. Праўда, не такія цікавыя, як Брэмавы.

Багата ўсялякіх дзівосаў расказваў ён хлопцам вечарамі каля палаткі.

Накупаўшыся за дзень уволю, наганяўшыся за мячом, яны дружна рассядаліся вакол Слаўкі як ля выхаваўцеля. Білі на сабе камароў і слухалі яго з такой увагай, быццам перад імі сядзеў чалавек, які бачыў на ўласныя вочы ўсё тое, пра што расказваў.

Так і канікулы праляцелі незаўважна. Першага верасня Слаўка пайшоў у школу. На перапынках прадоўжыў свае расповеды хлопцам пра расліны і жывёл Афрыкі, а яны дзівіліся, адкуль толькі ён усё ведае.

Калі ўрокі скончыліся і шумная кампанія хлопцаў выкацілася са школьнага двара за вароты, Слаўка раптам зірнуў уздоўж вуліцы і адразу нават не паверыў сваім вачам. Насустрач ішоў бацька.

— Ой! — ускрыкнуў Слаўка і, размахваючы партфелем, пабег да яго.

Дужымі рукамі бацька падхапіў яго разам з партфелем і падкінуў угору.

— Ты сумаваў без мяне?

— Сумаваў! Сумаваў! Цябе так доўга не было!

Па дарозе дадому бацька распытваў Слаўку, што ж ён цяпер ведае пра Афрыку. І Слаўка распавёў усё вычытанае ў кнігах.

— Ці адгадаеш, што я табе прывёз?

— Мангуста?

— Не.

— Сервала?

— Не.

— Карлікавую антылопу?

— Не.

— Ну не кракадзіла ж?..

— І не кракадзіла, — усміхнуўся бацька.

— Што ж тады? Кажы хутчэй, бо я не вытрымаю.

Замест адказу бацька голасна гукнуў у дзверы.

— Слаўка прыйшоў!

— Слаўка! Слаўка! Слаўка! — раптам адгукнуўся хтосьці дрыготкім голасам.

Слаўка здзівіўся:

— Хто гэта?

— Гэта... — пачаў бацька. — Сам пабачыш, хто гэта!

І Слаўка ўбачыў у клетцы птушку попельнага колеру з прыгожым ружовым хвастом.

— Вось гэта дзіва!

А птах загукаў:

— Слаўка! Слаўка!.. Са школы ідзе Слаўка!

— Дабрыдзень! — сказаў яму Слаўка. — Ты хто?

— Дабр-р-рыдзен-нь! Дабр-р-рыдзен-нь! Шкаляр-р! — радасна крычала птушка і свяціла на хлопца жоўтымі вачыма. «Р» у яго гучала так, нібыта трушчыў разгрызены гарох.



— Гэта папугай жако, — сказаў бацька. — Ён лічыцца найразумнейшым з усіх папугаяў Афрыкі, а можа, і свету.

— Найр-р-разумнейшы! — аўтарытэтна пацвердзіў папугай.

— Будзем сябраваць? — запытаўся ў яго Слаўка.

— Сябр-р-р-ра-ра-ваць! Сябр-р-р-ра-ра-ваць! — задаволена падхапіў жако.

Пасля схіліў галаву набок, прыязна зірнуў на хлопчыка і па-змоўніцку падміргнуў...

— Колькі пяцёр-р-рак? Колькі пяцёр-р-рак? — спытаў наступным разам папугай, калі Слаўка вярнуўся са школы.

Слаўка адказваў яму і браўся за ўрокі.

— Ад Кіева да Чаркас можна даехаць на электрацягніку за тры гадзіны. А каторай гадзіне будзе ў Чаркасах цягнік, што выйшаў з Кіева ў адзінаццаць гадзін раніцы? — чытаў умовы задачы ўголас.

— А катор-р-рай гадзіне будзе цягнік? — адразу ж спытаў яго жако. — А катор-р-рай гадзіне будзе цягнік?

— А чатырнаццатай.

— А чатыр-р-рнаццатай, — выгукваў папугай так рашуча, быццам сам развязаў задачу.

Але найбольш жако падабалася кукарэкаць. Калі бачыў на надворку пеўня, горда задзіраў галаву, надуваўся, і ў яго з горла голасна вылятала:

— Ку-ку-р-р-р-ра-ку!



Певень, чырвоны, як агонь, і з чырвонымі сярдзітымі вачыма, гнеўна ўзіраўся ва ўсе бакі, каб знайсці і пакараць парушальніка спакою. Не пабачыўшы нідзе нікога, падазрона пазіраў на папугая, што сядзеў на тыне і ўсім сваім выглядам паказваў, што гэта не яго выкрыкі. Выгляд у яго і сапраўды быў такі нявінны, што певень зусім разгубіўся. Каб не губляць аўтарытэту гаспадара падвор'я, сурова збіраў курэй, сакатаў на іх, раптоўна біў сябе чырвонымі крыламі ў чырвоныя бакі і кукарэкаў. А з тына яму адказваў кукарэканнем жако.

Агаломшаны певень на нейкае імгненне заміраў, а потым разводзіў крылы, адступаў для разгону назад і пачынаў скакаць на тын, каб правучыць нахабніка. Але дастаць да папугая яму не ўдавалася, бо певень ужо быў стараваты, занадта важны ад сытага і спакойнага жыцця. Стаміўшыся, уціхамірыўшыся, умясціўшыся пад тынам, сумна і стомлена пазіраў на жако. Быццам казаў сваім выглядам: «Не трывож маю курыную гаспадарку». Але жако звычайна таго позірку не

разумеў. А таму зноў пачынаў кукарэкаць. І певень уцякаў са сваім курыным гуртам ажно на агарод. Папугай заставаўся драмаць пад сонейкам і думаць, чым бы яшчэ развесяліць двор ды і самога сябе.

Калі Слаўка з’яўляецца дома, жако не адступае ад яго ні на крок. Ідзе той да лесапаласы — там дзядуля косіць траву, — жако з ім.

Слаўка перагортвае пакосы, каб сена лепш высахла, а жако бегае за ім следам і пасвіствае.

Паўз іх пралятае цягнік. Папугай нібы задумаўся, нават вочы прыплюшчыў, а пасля неспадзявана гукае:

— А катор-р-рай гадзіне будзе цягнік?

— Ну і разумнік ты, жако, — з усмешкай кажа яму дзядуля.

— Р-р-ра-разумнік! — ахвотна пагаджаецца жако. — Р-р-ра-разумнік!

І зноў ходзіць, перавальваючыся, па пакосах, насвіствае, задаволены сабой і сваім жыццём.

Восенню Слаўка прастудзіўся.

Ноччу ў яго была высокая тэмпература і ён трызніў. Сцішаны жако сядзеў каля хворага і не зводзіў з яго сумных жоўтых вачэй. За акном лапатаў халодны дождж і з грукатам праляталі цягнікі, палохаючы агнямі.

Калі прыйшоў доктар, папугай яму сказаў:

— Хвор-р-р-ры! Слаўка хвор-р-р-ры! Тэмпер-р-ратур-р-ра!

Пакуль доктар выслухоўваў Слаўкавы лёгкія, жако з надзеяй узіраўся ў яго. Нават не варухнуўся, ніводнага разу не міргнуўшы сваімі жоўтымі вачанятамі. Дзядуля, тата і мама таксама моўчкі сачылі за доктарам, з нецярпеннем чакаючы, што ён скажа пра хваробу.

Нарэшце доктар схаваў фанендаскоп у свой вялікі партфель, выцер акуляры і сказаў:

— Нічога страшнага няма, але трэба лячыцца.

— Лячыцца, — жаласліва паўтарыў жако.

Цэлымі днямі за пацямнелым акном шапацеў дождж, грукацелі цягнікі, а Слаўка ляжаў у пакоі і сумаваў. Яму ўжо трохі палепшала, але выходзіць на двор не дазвалялася. Адзіная забава — жако. Ён і вершы расказвае, і спявае, і свісціць.

Наведалі Слаўку аднакласнікі, і жако прадэманстраваў ім увесь свой рэпертуар.

— Яму на канцэртах выступаць, — сказаў нехта з хлопцаў. І жако яшчэ больш зацешыўся, аж вочы прыжмурыў ад задавальнення. І яшчэ заліхвацкі ўзяўся высвістваць, пасля мяўкаць, гаўкаць і кукарэкаць.

Ён, напэўна, вельмі цешыўся тым, што Слаўка адужаў хваробу. Разумны жако ўсё разумее.

...Стаіць пасярод бясконцага пошуму асенніх дажджоў стэпавы раз'езд. Гасне ў гушчары скінуўшых лістоту пацямнелых дрэў перастук колаў імклівых цягнікоў, што ляцяць здалёку і далёка.



Ідучы раніцай у школу, Слаўка спыняецца, калі паўз раз'езд пралятае цягнік, уважліва ўзіраецца ў мільгаценне яго акон і ўяўляе тых шчаслівых людзей, якія едуць у невядомыя старонкі і пабачаць там

усялякія дзівосы. Эх, хутчэй бы ўжо вырасці, скрушліва думае ён, і здаецца Слаўку, што чакаць яму таго часу даросласці яшчэ вельмі доўга — цэлую вечнасць.

Слаўка азіраецца на будынак і шторaз заўважае ў адчыненай фортцы свайго сябра з прыгожым ружовым хвастом.

Жако тым часам удумліва пазірае на хлапчука скрозь шэрую сцяну дажджу.

Цікава, ці згадвае ён сваю Афрыку, дзе так багата сонца і, мабыць, не бывае такіх халодных дажджоў?

Слаўка ведае, што без яго папугай вельмі сумуе дома. Няма каму паказаць свае таленты, няма з кім пагаварыць і паразважаць. Цярпліва чакае Слаўку са школы. А як толькі ён з'явіцца з партфелем у руках на парозе, жаўцізной зазіхацяць вочы жако, і ён весела загукае, з асаблівай асалодай вымаўляючы «р»:

— Шкаляр-р-р-р-р! Шкаляр-р-р-р-р! Колькі пяцёр-р-р-рак?

Мінаючы лужыны па дарозе, Слаўка ідзе да школы. Дарогаю думае, што ўлетку абавязкова возьме жако ў спартыўны лагер.

Бо такога доўгага расстання на цэлы месяц яны не вытрымаюць...

# Папугай з асенняй галінкі

Ужо была восень.

Ён сядзеў на галінцы паміж вялікімі яблыкамі і крычаў:

— Пар-ра ўставаць! Пар-ра ўставаць! Вар-рыць кашу!

Над яблыняй угары было бясконцае неба. Там ляталі розныя птушкі, а яшчэ вышэй над імі — самалёты.

У яго ажно галава закружылася, калі зірнуў угору. Да зямлі было бліжэй.

На зямлі дыванам васлана жоўтае лісце. А на ім — яблыкі.

Сярод яблыкаў хадзіў дапытлівы шчанюк. Нюхаў іх і з агідаю адварочваўся.

— Пар-ра ўставаць! Пар-ра ўставаць! Вар-рыць кашу!!! — заверашчаў папугай да шчанюка.

Той здзіўлена зірнуў на зялёнабокага папугая і сказаў: «Гаў!»

Папугай памаўчаў і таксама неспадзявана для сябе гаўкнуў.

Шчанюк ад здзіўлення ажно прысеў. На галінцы сядзеў зусім не сабака, а падаваў сабачы голас.

Шчанюк крыху пасядзеў, падумаў і пабег да хлопчыка. Хай падзівіцца на гэты цуд.

А да папугая ўжо пачалі злятацца вераб'і.

— Пар-ра ўставаць! Пар-ра ўставаць! Вар-рыць кашу! — загукаў ён да іх.

Гэта былі ўсе словы, якім папугая навучыла старэнькая бабуля, яго гаспадыня. Ён не мог распавесці вераб'ям пра сваю бяду.

А здарылася вось што. Бабуля пайшла з дому і пакінула кватэру адчыненай. Папугай лётаў-лётаў па пакоі. Гаварыў-гаварыў сам з сабою пра кашу. Заляцеў на кухню. Пазазіраў у каструлі. Кашы нідзе не было. Аж чыхнуў сярдзіта.

Падляцеў да дзвярэй і высунуў дзюбу. Там, на вуліцы, было вельмі цікава. Па дарозе праехаў велізарны пузаты аўтобус, прабег, насвістваючы, спартсмен. Папугай таксама свіснуў, але спартсмен не пачуў. Тады папугай радасна гукнуў у яго бок.

— Пар-ра ўставаць! Пар-ра ўставаць! Вар-рыць кашу!

Але спартсмен быў ужо далёка — толькі майка сінела.

Папугай паўзіраўся на тую сінюю майку і сумна сказаў:

— Пар-ра ўставаць...



Пасядзеў-пасядзеў, паглядзеў вакол і паляцеў туды, у свет за акном.

Праляцеў над катом у двары. Кот убачыў яго, падскочыў і мяўкнуў.

А папугай быў ужо далёка.

Ён лётаў над рэчкай, над рыбакамі і над рыбамі ў вадзе.

Здзіўляліся рыбакі: і што гэта за птушка незвычайная? Не голуб, не дзяцел, не сініца, не верабей... Проста дзіковіна нейкая. І бакі ў яе зялёныя.





Ніхто з тых рыбакоў ніколі не бачыў папугаяў, бо каля рэчкі папугаі не водзяцца.

А папугай лётаў цалюсенькі дзень і ўсяго-ўсяго нагледзеўся: людзей, машын, будынкаў, сталбоў, афіш... І нават базар пабачыў і яшчэ — футбол на стадыёне.

Пасля ён стаміўся. І сеў на яблыню адпачыць.

Адпачываў і аглядаўся навокал. Куды ж гэта ён заляцеў? І пераканаўся: заблукаў!

— Пар-ра ўставаць, — сказаў ціха і ледзь не плачучы. — Вар-рыць кашу...

Але яму ніхто нічога не адказаў.

Наўкола было ціха, толькі лісце ледзь чутна падала з дрэў, яшчэ больш засціляючы зямлю.

Сядзеў папугай на галінцы і не ведаў, што яму рабіць. Трэба было б ляцець, але ён забыўся, куды.

Тут і падбег да дрэва шчанюк, што гнаўся за звонкаю асою.

Аса паляцела, шчанюк застаўся.

— Гаў!!! — сярдзіта сказаў ёй услед шчанюк і стаў гуляць з самым спелым яблыкам, што ляжаў у лісці пад дрэвам.

— Гаў!!! — гукнуў да сабакі з вышыні папугай. Вось тады здзіўлены шчанюк і пабег да хлопчыка.

А вераб'і ўжо з усіх бакоў абселі галінку і ваяўніча натапыршчылі пер'е.

— Жыў-жыў! — загукалі яны да папугая.

— Жыў-жыў! — загукаў ён да іх.

Вераб'і падумалі, што гэты дзіўны птах з зялёным пер'ем па баках задаецца перад імі. Яшчэ і перакрыўляе іх.

— Жыў-жыў! — закрычалі на яго грозна.

— Жыў-жыў! — адказаў ім радасна папугай, бо не ведаў, што яны на яго злуюцца.

Тут да яго падляцеў вераб'іны камандзір і балюча пацягнуў за зялёнае пяро.

— Жыў-жыў! — ледзь не плачучы, папрасіў папугай, каб яго не чапалі.

Але вераб'і не ведалі гэтага і з усіх бакоў цягнулі з яго пер'е. Кепска было б папугаю, калі б шчанюк не прывёў хлопчыка.

— Гаў! — гукнуў шчанюк на вераб'ёў, і яны пырснулі ва ўсе бакі. Ведалі, што шчанюк вельмі сярдуе, калі яго не слухаюцца.

Хлопчык залез на яблыню і зняў папугая.

Папугай прытуліўся да яго грудзей і сказаў:

— Пар-ра ўставаць! Вар-рыць кашу!

— Ты малайчына! — звярнуўся да яго хлопчык. — Ты гаворыш!

— Ты малайчына! — следам выразна сказаў папугай.

— Пірат малайчына, — паказаў яму хлопчык на шчанюка. — Гэта ён цябе выратаваў ад вераб'ёў.

— Пір-рат малайчына! — пагадзіўся папугай.

Цяпер ён жыве ў хлопчыка. І ўжо вывучыў многа-многа слоў.

Штодня гуляе з хлопчыкам і з Піратам.

Часта падлятае да акна і ўглядаецца туды, у зімовы дзень. Там лётаюць, збіваючы снег з голля, шэрыя вераб'і.

І, мабыць, папугай думае, як бы гэта з імі пасябраваць, а пасля навучыць іх гаварыць.

Хлопчыку і Пірату папугай пра гэта нічога не казаў.

Пэўна ж, гэта яго сакрэт.

Можа ж, пагадзіцеся, быць і ў папугая сакрэт?

# Дрэва на тратуары

Дрэва ўжо зусім не памятала, адкуль і калі яно тут узялося. Яно, зялёнае, сумавала сярод каменнага грамаддзя будынкаў, сноўдання машын, тралейбусаў, трамваяў. Сярод шуму, гармідару, таўкатні і задухі людскога натоўпу, што наплываў і сыходзіў, быццам марскія хвалі на бераг. Пазірала на ўсё.

Днём не пераставала здзіўляцца: і куды гэта ўсе так спяшаюцца, чаго так галосяць? Яно нават пыталася пра гэта ў людзей.

Стоячы на гэтым старым тратуары ўжо столькі гадоў, услухоўваючыся ў людскія галасы, яно даўно вывучыла чалавечую мову і магло б з кім заўгодна паразумецца. Але яго ніхто не хацеў слухаць. Усе штосьці адно аднаму гаварылі, кудысьці беглі, і нікому не было ніякага клопату да старога дрэва і яго слоў, якія яно вышэптвала з сябе голасам сухога, запыленага лісця. Здавалася, дрэва ніхто зусім не прыкмячае. Стомленае лісце замаўкала і нямела да самага вечара. Цёмны горад расквечваўся ліхтарамі, вітрынамі і вокнамі будынкаў. Далёкае неба засейвалася маленькімі зорачкамі, а між імі плаваў ясны месяц.

Дрэва найбольш любіла вячэрнюю пару. Яго душа маладзела і станавілася зусім не драўлянаю. Чуйна, як музыку, слухала яно самотныя крокі на тратуарах, усміхалася насустрач прахалоднаму ветру і сціскалася ў трывозе, калі да яго далятаў з бліжэйшых акон дзіцячы плач.

Гаслі адно за другім вокны, прымружваліся зоркі, заходзіў за цёмную хмару месяц, усё навокал заплывала ў салодкі сон. Засынала пасля ўсіх і дрэва.

І яму сніліся зялёныя сны. Вялікія, проста бясконцыя лясы, якія дрэва толькі ўяўляла днём, прыходзілі да яго ноччу. А ў тых лясах, як рыба ў вадзе, плавалі ў светлых туманах усялякія дзіўныя птушкі. І гарнуліся стройнымі радамі адно да аднаго лясныя браты і сёстры. Гарнуліся і дружна спявалі зялёныя песні. Ва ўсіх было свежае і незапыленае лісце, вымытае дажджом і авеянае вятрамі з далёкіх краёў.

Дрэва прачыналася з ранішнімі тралейбусамі, згадвала свой сон і тужліва пазяхала. Аж лісце ад таго пазяхання дрыготка трымцела. Дрэва ўглядалася ў выцвілае неба над горадам, і ў памяці безнадзейна выглядалі з далечыні зялёныя лясы з яго вясёлымі братамі. Яно добра ведала, што пабываць сярод іх яно здольнае толькі ў снах. Бо кожнаму дрэву на свеце наканавана жыць там, дзе яно вырасла. І, мабыць, няма ніводнага з іх, якое б не зайздросціла птушкам, што

сягаюць у бязмежныя нябёсы і лётаюць куды толькі захочуць.

Неяк у цяньку пад дрэвам паставілі бочку з квасам, і да яе пацягнулася доўгая чарга людзей. Сярдзітая прадаўшчыца пакрыквала на іх, каб давалі грошы без рэшты, каб не таўпіліся з кухлямі каля яе, а адыходзілі далей. Перападала і тым, хто трохі затрымліваў кухаль. Жанчына адразу ж разяўляла на іх рот, і яны, нават не дапіўшы квасу, уцякалі адсюль. Невядома, дзе і бяруцца на свеце такія крыкухі.

Дрэва ўважліва назірала са сваёй вышыні за ўсім, што рабілася каля яго. Дрэва ніяк не магло зразумець, чаму людзі бываюць сярдзітыя, чаму яны крычаць на іншых. У яго снах дрэвы ніколі не сварыліся і не крычалі на каго б там ні было, яны жылі ў вялікай дружбе. А сваім снам дрэва верыла. Яно аднекуль ведала, што яму сніцца толькі праўда.

Сонца ўжо паліла неміласэрна. Плавіўся і сквірчэў ад гарачыні асфальт. І ад гэтай спякоты безжыццёва абвісла на дрэвах лісце. Яно станавілася зусім жоўтым і пачынала паміраць. Далёка ўнізе пад асфальтам напружвала ўсе сілы карэнне, шукала вільгаці і не знаходзіла яе, бо падземныя воды адсюль адышлі — з гэтых грукатлівых ад транспарту мясцін. Вада ж з далёкай ракі, якая цякла па трубах у кватэры, была ў металічным палоне і не магла праліцца на засмяглае карэнне.

Тым спякотным днём дрэва зразумела, што хутка памрэ. Карэнне сказала яму, што яно абшукала ўсё вакол і нідзе не знайшло і кропелькі вады. Дрэву шкада было разлучацца са светам, усведамляць, што яно больш не ўбачыць сваіх зялёных сноў.

І раптам у гэтых думках яно ўбачыла хлопчыка, які стаяў каля газетнага кіёска і захоплена любаваўся дрэвам.

— Ой, якое ты прыгожае! — сказаў ён.

— Хлопчык-хлопчык, — ціха прамовіла да яго дрэва, — мяне тут хутка не будзе...

І адбыўся цуд: хлапчук пачуў яго.

— Як гэта не будзе? — спытаў ён.

— Прападу я тут без вады...

— Без вады? А хіба тут няма вады?

— Няма, — журботна адказала дрэва і расказала пра сваю бяду.

Хлопчык ледзь не заплакаў. Але паколькі ля бочкі з квасам было столькі людзей, то ён стрымаўся.

— Трэба штосьці прыдумаць, — сказаў і рашуча агледзеўся вакол.

— Што ж тут прыдумаеш?! — разгублена прашалясцела сухім лісцем дрэва. — Нічога не прыдумаеш, мой харошы...

Іхнюю размову не чуў ніхто з людзей. Яны альбо моўчкі пілі квас, альбо гыркаліся з прадаўшчыцай.

— Ты не павінна загінуць, — сказаў хлопчык. — Я вось зараз жа пабягу за татам, ён у мяне вельмі разумны і абавязкова штосьці прыдумае.

Дрэва недаверліва пахістала верхалінай. Але вырашыла не расчароўваць хлапчука і ў адказ толькі прамовіла:

— Добра… Можа быць, сапраўды штосьці і прыдумае твой тата…

— Чакай мяне тут! — выкрыкнуў хлопчык, зусім забыўшыся, што дрэва заўжды стаіць на месцы і нікуды не можа пайсці.



Ён сарваўся з месца і ва ўвесь дух невядома куды пабег. А разморанае спёкай, засмучанае дрэва задрамала. Такога з ім яшчэ ніколі не было пасярод дня. Пасярод дня яно заўсёды строга стаяла на варце ваколіц, быццам той салдат на пасту, і слухала мясцовы гоман. Цяпер жа ў яго зусім не было сіл. Яго карэнне ўжо пачало вянуць і сохнуць. Раней яно бадзёра хлюпалася ў вадзе, сёрбала яе і гнала ваду па сваіх артэрыях, па слупу дрэва ўгору, каб напаіць кожную галінку, кожны дробненькі лісточак.

Ужо даўно скончыўся квас. Разышлася расчараваная чарга. Прадаўшчыца пералічыла заляпаныя жоўтымі пырскамі грошы і сказала сама сабе: «І калі ўжо яны нап'юцца?!» Пасля пазяхнула і сплюнула пад дрэва. А яно раптам абудзілася ад гэтага і дакорліва падзівілася на яе. Тая прадаўшчыца нічога не помніла, бо яна ніколі не пазірала ўгору. Запіхнула грошы ў кішэню калісьці белага халата і пайшла, пазяхаючы на хаду. Мабыць, шукаць нагоды, з кім бы яшчэ пасварыцца.

Дрэва доўга ўзіралася ёй услед і зноў думала, чаму людзі бываюць такія сярдзітыя. Быццам і жывуць якраз для таго, каб адно з адным сварыцца. Гэтага яно ніколі не магло зразумець. Усё на свеце разумела, акрамя гэтага.

Ужо хілілася да вечара, а хлопчыка не было і не было. І дрэва з жахам падумала, што ён проста забыўся на яго.

Толькі яно так падумала, як побач раптам спынілася машына. У ёй замест кузава была велізарная цыстэрна. А вакол абвіваўся даўжэзны шланг. З кабіны вылезлі хлопчык і яго тата.

— Вось мы і прыдумалі! — весела сказаў дрэву хлопчык.

— Што прыдумалі? — не разумеючы яго, спытала дрэва.

— Будзе табе вада...

Яны разматалі шланг і падцягнулі яго да самага ствала. У машыне, якая дагэтуль стаяла зусім спакойна, штосьці раптам загуло, завурчала, закракатала, і з шланга прама на ствол брызнуў струмень вады. Дрэва ажно страпянулася ад радаснай неспадзяванкі, ажно лісточкі на ім затрапяталі, быццам птушыныя крылы.

А вада цякла і цякла на маленькі астравок зямлі, аточаны з усіх бакоў гарачым асфальтам. Цякла і адразу ж ішла ўглыб, прасочвалася да карэння. І карэнне пачынала вырывацца з палону цяжкага сну. Вось яно зварухнулася раз і другі, а далей захлюпала ў вадзе, весела заплёскалася. І жадна піло, піло тую гаючую ваду, гнала яе ў ствол. А па ствале вада падымалася да самых высокіх галіначак... Машына, выканаўшы сваю выратавальную місію, паехала, а тата з хлопчыкам засталіся каля дрэва.

— А ці можна яго перасадзіць у парк? — спытаўся хлопчык у таты.

— На жаль, нельга, бо яно ўжо вялікае...

— Што ж, будзем тут даглядаць, — зусім як дарослы сказаў хлопчык.

— Гэта вельмі прыгожае дрэва. Трэба яго намаляваць, — сказаў тата.

— Намалюй! Намалюй! І карціну павесіш у маім пакоі!

І дрэва не прапала, бо яны часта прывозілі яму ваду.

А потым неяк адным ранкам тата прыйшоў з сынам сюды і пачаў маляваць дрэва. Спярша на палатне з'явіўся вялікі будынак, потым бочка з квасам, мажная прадаўшчыца і чарга. А далей, збоку, над імі ста-



ла вырастаць зялёнае дрэва з вясёлай лістотай. Людзі падыходзілі да бочкі і ўзіраліся ў палотнішча.

— Ой, якое прыгожае дрэва! — казалі яны. Падышла і сярдзітая прадаўшчыца.



— Ой, а я і не заўважала гэтага дрэва! — здзіўлена ўсклікнула яна. — Колькі стаю тут са сваім квасам, толькі бясконцую чаргу і бачу. А яно, аказваецца, у мяне за спінай стаіць і халадочак стварае.

І раптам хлопчык зразумеў, што цётка зусім не сярдзітая. Яна толькі на першы погляд здаецца такой, бо вельмі любіць пабурчэць.

— Яго трэба паліваць, — сказаў ён цётцы, — каб не прапала. У яго ўжо лістота пачала жаўцець. Дык мы з татам прывезлі ваду.

— А чаму ж мне не сказалі? — пляснула рукамі прадаўшчыца. — Хіба ж я не дамовілася б з вадзіцелямі, каб прывозілі яшчэ і цыстэрну вады? Яны мяне слухаюцца...

— Дык давайце па чарзе паліваць, — прапанаваў тата, дамалёўваючы крону дрэва, якая зазірае ў высокае неба.

— А давайце, — адгукнулася жвавая цётка. — Вось заўтра і будзе мая чарга.

Так і адбылося: калі хлопчык наступным днём прыйшоў сюды, каля дрэва ўжо стаяла вялікая машына і цётка крычала вадзіцелю:

— Усю, усю вылівай! Што табе, вады для дрэва шкада? Паглядзі ты на гэта дрэва: не дагледзім мы — прападзе!

Хлопчык і бацька бачылі, як весела булькоча і знікае пад зямлёй вада каля ствала.

— Ці гэта вада плюскоча, ці хтосьці зараз спрабуе з намі гаварыць? — здзіўлена запыталася цётка.

— Гэта ж дрэва! — патлумачыў ёй хлапчук.

— Дрэва? Яно гаворыць? — дзівілася цётка. — Хіба такое бывае?

— Бывае... — адказаў ёй хлопчык.

— Во дзе дзіва. Цэлы век пражыла, а такога не ведала.

— Яно размаўляе з тымі, хто робіць для яго дабро. Я чытаў пра гэта ў кніжцы.

— Ну, калі гэта напісана ў кніжцы, значыць, праўда, — пагадзілася цётка. А потым крыкнула, звяртаючыся да пакупнікоў: — Не можаце пачакаць крыху?! Бачыце, дрэва паілі... Хіба толькі вам трэба піць?! Жлукты вы гэтакія...

Вось так яны і даглядаюць цэлым гуртам дрэва на тратуары, і ў іх з'явілася нямала памочнікаў. І стаіць тое дрэва жывое-жывёхенькае. Размаўляе з птушкамі і ветрам. І з вокнамі будынкаў. І з хлопчыкам, які марыць навучыць усіх слухаць словы дрэва.

А карціну, якую намаляваў бацька хлопчыка, папрасілі ў галоўны гарадскі музей. Каб яе ўсе маглі бачыць.



Калі вы будзеце ў тым музеі і сярод многіх-многіх карцін убачыце палотнішча, на якім намаляваны будынак, чарга каля бочкі з квасам і высокае-высокае, густалістае дрэва над імі, ведайце, што гэта — яно, наша дрэва.

Я і сам нядаўна там быў і бачыў яго.

Так яно і стаіць.

# Цінь-Цвірынь

Ужо ішла вясна.

Першымі пабачылі, як ажыла і загаварыла з халоднымі берагамі рэчка, вераб'і.

— Прачынайся, сплюха! — сказала рэчка берагу. — Годзе табе ўжо спаць. Цэлую ж зіму ты праспаў!

— Зіме канец! Зіме канец! — радасна крычалі над рэчкай вераб'і. — Нам не будзе холадна! Нам не будзе холадна!

Рэчка выглянула з абалонкі, але відаць было дрэнна. Гучна трэснуў лёд. Аж вераб'і спужаліся. Разляцеліся ў розныя бакі і прыціхлі, затаіліся маленькімі шэрымі грудочкамі на заснежанай бярозе.

Лёд злаваўся і штосілы намагаўся ўтрымаць раку.

— Ой, як ты мне ўжо абрыдзеў, — разгневалася яна на лёд. — Адпусці мяне на волю!

У ракі было шмат дзяцей, і яна паклікала іх сабе на дапамогу. Дзяцей яе звалі хвалямі. Набеглі жвавыя дзеткі і пачалі хапаць ільдзіны, крышыць іх і выкідваць на бераг.

Тут і вераб'і ажылі. Яны зноўляталі над рэчкай і казалі ёй:

— Дай нам напіцца вясенняй вадзіцы.

— Што? — не разумела рэчка, бо не ведала іхняй мовы.

Нарэшце і бераг прачнуўся, пачуў тую размову.

— Яны хочуць вясенняй вадзіцы, сястра, — сказаў ён рэчцы. Брат ракі бераг быў вельмі вялікім вучоным і ведаў усе мовы на свеце.

— Піце колькі душа пажадае.

Вераб'і дружна селі на бярозу, якая ніжнімі галінамі дакраналася да ракі, і сталі піць вясеннюю ваду.

А тут якраз ідзе з сяла руды аблезлы кот. Гаспадар прагнаў яго з дому за тое, што ён шкоду вялікую рабіў. То смятану са жбана зліжа, то паб'ецца з цюцькам, то куранят напалохае, то дзяцей падрапае. Цярпеў-цярпеў гаспадар, а як цярпенне скончылася, ён кату і кажа:

— Ідзі куды падалей з дому. Можа, дзесьці розуму набярэшся, няхай цябе іншыя жыццю вучаць...

І пайшоў кот куды толькі вочы глядзяць. Быў ён заўсёды вельмі галодным. Убачыў яшчэ здалёку вераб'ёў. «Вось, — думае, — паласуюся. Такое мне ўпусціць ніяк нельга».

Нячутна, як цень, падкраўся кот да вераб'інай зграйкі, якая на краі берага раскашавалася вадзіцай. Ужо і скочыць прыгатаваўся, салодка думаючы, якую спажыву зараз атрымае. Сам і задачу сабе вызначыў: «З'ем вунь таго жвавенькага з хвастом, які вытыркаецца. Не іначай, як дзесьці мы раней з ім ужо сустракаліся».

...А вераб’я таго, што кот нагледзеў, звалі Цінь-Цвірынь. Ён быў найлепшым спеваком з усіх вераб’ёў. Ён ніколі не журыўся, хаця ў яго было і нялёгкае жыццё.

Іншы на яго месцы даўно засумаваў бы над сваім лёсам. А ён і ў найбольшы мароз звонка спяваў пра тое, што прыйдзе красна лецейка, і скрозь поўна будзе зярнятак, і усім хопіць самых лепшых птушыных прысмакаў, усёй вераб’інай радні хопіць... Цінь-Цвірынь весяліў усіх вераб’ёў, і ім таксама не ставала часу журыцца над сваім лёсам. Яны лcraталі вакол Ціня-Цвірыня і падпявалі яму. Так пясняр ствараў вакол радасны настрой, атмасферу шчасця і агульнай прыязнасці адзін да аднаго.

А той цяжкай зімою Цінь-Цвірынь усё ж засумаваў. Ён доўга галадаў, і ў яго моцна разбалелася галава. Цінь-Цвірынь не мог нідзе знайсці жаданага спакою. І нават яго песня ўжо нікога не весяліла. Яна была нейкая ціхая і сумная, як зорка на далёкім начным небе. І свеціць, але не прыцягвае да сябе, не весяліць сваім бляскам.

Цінь-Цвірынь слухаў, як патрэсквае на дрэвах мароз. Мароз быў вельмі злосным і спытаў у вераб’я:

— А што, табе холадна?

— Холадна, — квола прамямліў Цінь-Цвірынь, адчуваючы, што замярзае.

Ужо б ніколі сябры-вераб’і не пачулі вясёлых спеваў.

І не сядзеў бы зараз на краі берага Цінь-Цвірынь, калі б не ішоў з кіно хлопчык Слаўка. Ішоў разам са сваім татам і грэў нос у цёплым каўняры паліто.

— Тата, вунь нешта шарэе, — сказаў ён.

— То камень, сынку, ці камяк мёрзлай зямлі.

— Не, не камень і не камяк. Гэта нешта жывое...

Яны нахіліліся і падабралі напалову жывога вераб'я. Прынеслі яго дахаты і пачалі адаграваць. Доўга не ажываў Цінь-Цвірынь. Слаўка заплакаў і спытаў бацьку:

— А можа, ён памёр?

Бацька ўзяў фанендаскоп і паслухаў вераб'інае сэрца. Яно ціха білася ў маленькіх, наскрозь прамёрзлых грудзянятах.

— Жывы наш верабейчык, — сказаў тата, і ў Слаўкі адразу высахлі слёзы.

— Жывы! Якое шчасце!

Калі Цінь-Цвірынь ачомаўся, яны напаілі яго цёплым малаком і пачаставалі тортам.

Абагрэты Цінь-Цвірынь павесялеў. Ужо з ахвотай дзёўбаў торт і падміргваў Славіку. А Слаўка то смяяўся, то, перагортваючы тоўстую кніжку, чытаў яму казку



пра ваўка і семярых казлянят. А то і знаёміў з іншымі казкамі.

Верабей не ведаў, што ёсць такія цікавыя казкі, і не разумеў людской мовы, таму слухаў адно толькі з павагі да Слаўкі, свайго выратавальніка. Але не такая ў яго была жыццёвая манера, каб ціхенька сядзець. Ён пачаў лётаць па пакоі, кратаць дзюбай Слаўку за чуб. Потым сеў на кніжку і пачаў выдзёўбваць літары. Кніжка была зусім тоненькая, і ён хуценька павыдзёўбваў іх усе. Ужо ніхто не змог бы прачытаць, што ў кніжцы было напісана. Толькі малюнкі і засталіся.

Слаўку стала шкада казкі, і ён заплакаў.

— Я ж пажартаваў! Я ж пажартаваў! — ніякавата пачаў прасіць прабачэння Цінь-Цвірынь. І хуценька пачаў збіраць выдзеўбаныя літары ў кніжку. Але чытаць ён не ўмеў і не ведаў, з якіх літар складваюцца якія словы. І цяпер у кніжцы было напісана так: «КоТТ іу онс прт вкеім гррцт дті-уку утр...нніусен...»

Слаўка чытаў гэтыя шыварат-навыварат складзеныя словы і пасмейваўся з вераб’я:

— Ой і мудрагеля ты! Чарадзей непісьменны! Табе ў школу яшчэ трэба ісці.

Спаць яны ляглі разам. І ім абодвум сніўся адзін і той жа сон пра лета, цёплую рэчку, пра шэпт чароту. А яшчэ ў сне мылі ў вадзе ногі вербы, спявалі чалавечымі галасамі рыбы і прыйшла на рэчку купацца срэбраная хмара...

Некалькі дзён пражыў Цінь-Цвірынь у Слаўкі і засумаваў.

— Чаму ты невясёлы? — спытаў яго Слаўка.

Але Цінь-Цвірынь не змог яму адказаць. Адно толькі сядзеў на падаконніку і журботна ўзіраўся ў акно, дзе іскрыўся на сонцы снег, пышна бялелі снежныя шапкі на дрэвах і ляталі на волі вераб'і.

Тымі днямі прыбіўся да іхняга двара руды аблезлы кот-злодзей. Яго ўжо выгналі не з адной хаты. Прыб'еццца да кагосьці, яго прыгрэюць, адгадуюць, а ён, нахабнік, і пачынае вырабляць абы-што: у кладоўцы ўсе глечыкі з малаком і смятанай папе-

ракульвае, панадʼядае варэнне з усіх слоікаў, панчохі і шкарпэткі падзярэ. Прыгледзяцца да ката людзі, разгневаюцца — і праганяюць.

Адным разам, калі Слаўкі не было ў хаце, а Цінь-Цвірынь глядзеў па тэлевізары пятую серыю «Ну, пачакай!», кот кінуўся на верабʼя і заціснуў яго ў кіпцюрах.

Цінь-Цвірынь жаласліва зацвірынькаў, а кот ужо вастрыў зубы, што зранку затупіліся, бо ён загрыз Слаўкавага чарвяка.

Пачуўшы з двара голас Цінь-Цвірыня, у хату прыбег захеканы Слаўка.

Ён і выратаваў птушку. А пасля цэлы дзень заклікаў да сумлення ката. Казаў, што так рабіць непрыгожа. Але кату яго словы мала што значылі. Ён абразліва пырхнуў, а пасля заплюшчыў вочы, завуркатаў і зрабіў выгляд, што спіць.

Увечары Слаўка ўсё распавёў бацьку. А тата яму і адказаў:

— Трэба выпусціць верабейчыка на волю. Бачыш, як ён сумуе.

Як бы ні хацелася Слаўку расставацца з птахам, ён паслухаўся бацьку, і раніцай Цвінь-Цвірынь ужо лётаў над надворкам і звяртаўся да Слаўкі:

— Я яшчэ прылячу! Я яшчэ прылячу!

...І вось кот другі раз збіраецца зʼесці лепшага верабʼінага спевака Цінь-Цвірыня. Але зноў пашчасціла верабейчыкам. Самая маленькая хва-

ля ўгледзела хіжага ката і пра ўсё здагадалася. Яна схапіла вострую льдзіну і кінула кату прама ў пыску. А яе старэйшая сястра выскачыла на бераг і так зашыпела на ката, што ў яго ажно дух заняло ад страху. Кот падскочыў і кінуўся наўцёкі, цягнучы па калюжынах мокры хвост.

А Цінь-Цвірынь салодка і шчасліва заспяваў. Яго слухалі рэчка, хвалі, бераг і іншыя вераб'і...

Раптам Цінь-Цвірынь замоўк, а потым сказаў:

— Ой, мне ж трэба да Слаўкі ляцець! Я лячу да Слаўкі!

І Цінь-Цвірынь паляцеў сказаць Слаўку, што ўжо прыйшла вясна...



# Цінь-Цвірынь у заапарку

Цінь-Цвірынь жыў цяпер на гарышчы старой каморкі.

Надыходзілі дні, калі яму станавілася наўздзіў трывожна. Хутка на збожжатоку вырастуць сапраўдныя горы пахучага зерня. Тады ён будзе жыць у раскошы на ўсю поўніцу. Наесца на цэлы год уперад.

Самым ранкам ён прачнуўся ў мяккім гняздзечку і прывітаў усіх сваіх суродзічаў бадзёрым посвістам. А потым адразу паляцеў будзіць Слаўку. Шлях яго быў недалёкі — толькі рэчку мінуць.

Рэчка вымывала бераг і сказала яму:

— Табе б толькі спаць ды спаць, а сонейка, глядзі, вунь калі ўжо паднялося. Падымайся, соня!

Бераг сонна пазяхнуў і ўдыхнуў расу прыбрэжных траў.

— А вось і наш Цвінь-Цвірынь! — узрадавалася рака, калі ўбачыла ўгары шэрага птаха-спевака. — Напіся, калі ласка, свежай вадзіцы.

Хаця Цінь-Цвірынь і не вывучыў яе мову, але ўсё адно здагадаўся, да чаго яна запрашае. Сеў на самы

край берага і пачаў смакаваць свежую ваду. А як напіўся ўволю — падзякаваў рэчцы звонкай песняй пра лета, сонца і ранішні туман.

Маленькія хвалі пачалі танцаваць на вадзе, выскоквалі на бераг і, быццам малыя цюцькі, лашчыліся да вясёлага спевака.

Скончыў песню Цінь-Цвірынь і спахапіўся:

— Ой, а мне ж Слаўку будзіць! Я да вас увечары прылячу!

І ён ужо сустракаў каля двара Слаўкавага бацьку, які ішоў на працу.

— О, наш нястомны будзіцель, — сказаў той і прыветліва махнуў вераб'ю рукой.

А Цінь-Цвірынь сеў на падаконне Слаўкавага пакоя і завёў ранішнюю песню:

Ужо рамонкі ўсталі.
Аксаміткі ўсталі.
І ты прачынайся...
Прачынайся! Прачынайся!

На падушку да Слаўкі заскочыў сонечны зайчык і танцаваў у яго перад вачыма. Слаўка жмурыўся і намагаўся ўхапіць няпрошанага госця рукамі. Ды дзе там яго ўтаймуеш! Зайчык быў спрытны і няўлоўны. Ён лёгка выслізваў з рук.

— Нездарма тата казаў, што я такі спрытны, як мядзведзь з вераб'ямі, — паскардзіўся на сябе Слаўка Цінь-Цвірыню, і яны ўголас засмяяліся.

Хоць Цінь-Цвірынь і не разумеў, пра што Слаўка гаворыць, але пры слове «вераб'і» з гонарам выпраміўся, быццам яго ў кіно паказваюць. А потым па-змоўніцку падміргнуў хлопцу. Вельмі любіў Цінь-Цвірынь яму падміргваць!

Калі Слаўка снедаў, Цінь-Цвірынь зазіраў да яго ў талерку. Калі ў ёй была манная каша, верабей адкрываў дзюбу і ўглядаўся ў Слаўку. Хлопец падносіў яму лыжку, і ён няспешна склёўваў кашу. Гэта была яго любімая страва з тае пары, як верабей пасябраваў са Слаўкам.

Сёння Слаўка зноў частаваў вераб'я маннай кашай. А калі талерка была спарожнена, сказаў:

— Нас вязуць у заапарк. Ён далёка ў горадзе. Не ведаю, ці браць цябе з сабою... Табе, мусіць, будзе нецікава.

Цінь-Цвірынь уважліва на яго паглядзеў. Хацеў зразумець, што Слаўка гаворыць. І хлопец усёй магчымай мімікай паспрабаваў яму патлумачыць. Верабейчык радасна захістаў галавай.

...І вось аўтобус спыніўся ў горадзе каля заапарка.

Сланы, бегемоты, мядзведзі, малпы, алені, удавы, ваўкі, львы, пантэры, тыгры, зебры, страўсы, папугаі... — столькі звяроў і птушак разам пабачыць можна хіба што ў кіно. Слаўка ходзіць разам з усімі па алеях заапарка і захапляецца. А на плячы ў яго сядзіць, прыціхшы, Цінь-Цвірынь. Ён вельмі здзіўлены, бо

ведаць такога не ведаў, што на свеце жывуць усе гэтыя звяры. А яшчэ яму прыкра зрабілася, бо здалося: Слаўка зусім на яго забыўся.

Ужо вечарам, стомленыя пасля паходу ў заапарк, усе вярталіся ў вёску. Усе наперабой дзяліліся ўражаннямі, гаварылі, што каму спадабалася, запомнілася.

— Я і не ведаў, што сланы такія разумныя!..

— А мядзведзі на малюнках крыху іншыя!..

— А ваўкі зусім і не падобныя на драпежнікаў — на выгляд звычайныя сабакі!..

— А папугаі крычаць такім сіплым голасам, быццам яны прастуджаныя!..

Цінь-Цвірынь на плячы ў Слаўкі журботна маўчаў і ўглядаўся ў акно. Нарэшце Слаўка ўспомніў пра яго і спытаў:

— Чаму ты такі невясёлы? Не спадабалася ў заапарку?

Верабей зразумеў, што Слаўка звярнуўся да яго, выцягнуў шыю і ўхапіў хлопца дзюбай за вуха.

Слаўка дапытліва зірнуў на яго:

— Ты, мусіць, чымсьці незадаволены?

Ну, але як жа вераб'ю расказаць, што ён крыху пакрыўдзіўся? Слаўка хваліць усіх звяроў, птушак, а пра яго маўчыць!

Але Слаўка і сам усё зразумеў.

— Ты ў мяне таксама прыгожы і дзівосны птах. І цябе таксама на радасць усім-усім можна паказваць у заапарку!




Верабейчык, хоць і не зразумеў, што кажа Слаўка, але яму вельмі спадабаўся тон, з якім усё было вымаўлена. Цінь-Цвірынь ведаў, што такім тонам гавораць толькі добрыя словы.

Горад даўно быў ззаду. Аўтобус імчаў па вячэрняй шашы. Паўз яго з натужным вуркатаннем праязджалі грузавікі, праляталі імклівыя легкавікі, матацыклы.

Вадзіцель у кабіне пачаў нешта насвістваць, і на яго мелодыю адразу адгукнуўся Цінь-Цвірынь.

Ён заспяваў пра тое, як добра мець сапраўдных і верных сяброў, як цудоўна, калі сябры разумеюць адзін аднаго.

Усе задаволена слухалі яго. І ўсе радаваліся, што ў Слаўкі ёсць такі незвычайны таварыш.

Таварыш з такім вясёлым імем — Цінь-Цвірынь...



# ЗМЕСТ